# Ніва

БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 24 (694) 15 ЧЭРВЕНЯ 1969 г. ЦАНА 60 гр.


## За народную ўладу

На мілейчыцкім могільніку выдзяляюцца сваёй акуратнасцю дзве магілы: бацькі Дзямяна Баравіка і яго сына Леваня. Бацька пакоіцца там ужо 23 гады, а сына пахавалі тры гады таму назад. Бацьку забілі бандыты, а сын таксама загінуў трагічна, выконваючы міліцэйскую службу.

На могільнік прыходзіць старэйшая жанчына. Прыходзіць амаль кожны дзень. Насаджвае на магілах свежыя кветкі, падлівае іх, каб не пасохлі ад летняй спякоты, змяняе вянкі, вырывае зелле. А часам звычайна сядае ля гэтых магіл і, апусціўшы сваю пасівелую галаву, моўчкі раздумоўвае сваё гора.

Як жа цяжка была паранена яе душа, калі ні час, ні шчасце астаўшыхся пры жыцці дзяцей не змаглі яе загоіць!

А за што ж аднак загінуў яе муж?

Сёння сцвярджаем: за народную ўладу, за яе існаванне, за яе перамогу і за яе росквіт.

Яго жонка, гэтая заўчасна пастарэлая жанчына, таксама пацвярджае нашы меркаванні.




— Пэўна, што за народную ўладу, — гаворыць яна. — Бо як жа інакш можна сказаць? Ён жа нікога не пакрыўдзіў, нікому нічога злога не зрабіў. Быў звычайным рабочым.

Сапраўды, жыццёвы шлях Дзямяна Баравіка не вызначалі нейкія надзвычайныя падзеі, хаця нельга лічыць яго спакойным ядаком хлеба. Маючы 14 год, стаў ён ужо рабочым. Працаваў у мілейчыцкай кафлярні. З уласнага горкага вопыту добра тады ведаў рабочую галодную і халодную бяду. Жыццё выдавалася яму безнадзейным і бесперспектыўным. І толькі камуністычная партыя ў сваіх лозунгах, лістоўках і газетах, падказвала, як паступаць рабочым. Нічога тады дзіўнага, што Дзямян Баравік яшчэ юнаком знайшоўся ў членах КПЗБ.

Пасля, пры савецкай уладзе, быў кароткі перыяд свабоды, калі такія людзі, як Баравік, адчувалі сябе гаспадарамі сваёй тэрыторыі. Але зараз наступілі гады акупацыі. Дзямяну Баравіку не стала працы нават у кафлярні. Пайшоў ён за пастуха да аднаго немца, які, прыехаўшы з Германіі, абсталяваў сабе ў Мілейчыцах вялікі кароўнік. Хадзіў тады Дзямян за каровамі і вочы меў адкрытыя. Партызаны хутка наладзілі з ім сувязь. А ён, і яшчэ адна маладая руская жанчына, якая таксама вымушана была служыць гэтаму немцу, перадавалі партызанам весткі пра ўсё, пра што ўдавалася ім даведацца. На два тыдні перад вызваленнем нейкі правакатар іх выдаў. Дзямяну ўдалося ўцячы, а гэтая руская дзяўчына не паспела...

Калі толькі прагрымеў фронт, Дзямян Баравік вярнуўся ў кафлярню. Яна была цалкам разрушана. Сабраў рабочых, і супольнымі сіламі пачалі яе адбудоўваць. Рабочыя выбралі яго сваім кіраўніком. Ніхто ім за працу не плаціў, ніхто не лічыў гадзін іх працы. Першую зарплату атрымалі толькі тады, калі кафлярня пачала выпускаць кафлі. Проста рашылі супольна, што частку сваёй прадукцыі будуць раздзя-

Працяг на стар. 4



Метро? Атамная станцыя? Ракетная ўстаноўка? Нічога падобнага! Вы бачыце сушарню нядаўна адкрытага нов ага цагельнага завода ў Старым Ляўкове, Гайнаўскага павета. Фота Цаф — Сянько

## „ЗАГОНЫ" САКРАТА ЯНОВІЧА

Так мілагучна назваў кніжку сваіх твораў Сакрат Яновіч. Кніжка выйшла ў выдавецтве ГП БГКТ у Беластоку. Аўтар — член літаратурнага аб'яднання «Белавежа», журналіст. Яго літаратурная творчасць вядомая чытачу «Нівы» з літаратурнай старонкі нашага часопіса. Своеасаблівая гэта творчасць: яе найбольш характэрнай рысай — кароткасць. У кніжцы чытач знойдзе кароткія абразкі, замалёўкі, апавяданні. Разам 80 твораў, змешчаных на 285 старонках друку.

Каляровая вокладка кніжкі прыцягвае ўвагу.

«Загоны» купіць можна ў ГП БГКТ у Беластоку, вуліца Варшаўская 11, і ва ўсіх аддзелах Беларускага таварыства. Цана 10 зл.

(вл)

З АГЛЯДУ МАСТАЦКАЙ САМАДЗЕЙНАСЦІ НАЦЫЯНАЛЬНЫХ МЕНШАСЦЕЙ У БЕЛАСТОКУ.



Жаночы вакальны калектыў Украінскага таварыства пры Грамадскім асродку культуры ў Банях Мазурскіх. Кіраўнік — Яўгенія Іванэк.
Фота Цаф — Сянько.

## НАСУСТРАЧ 25-ГОДДЗЮ

Называецца прыгожа і горда: Бельская зямля. Старая зямля і назва яе, багатая гісторыяй. Стары сам Бельск, які даў назву зямлі. Белавежскія спарахнелыя цяпер дубы шумяць аб славе і сівізне Бельскай зямлі. Граніца яе сягала далёка. Бельская зямля была найбольшым тэрытарыяльна паветам у Польшчы.

На парог 25-годдзя ўступіла яшчэ ахопліваючы тры цяперашнія паветы: Бельскі, Гайнаўскі і Сямяціцкі. У спакойны гарадок Падляшша ездзілі тады дзядзькі за сто і больш кіламетраў да павятовых улад ладзіць справы. Нарасталі, накладаліся гады 25-годдзя — вялікага, бурлівага перыяду, калі ўлада ішла, усё больш зблізкалася да людзей, усё больш зрасталася з імі. Такі яе характар, нашай улады, такое яе заданне. Не з вышынь старой бельскай ратушы пазіраць на Бельскую зямлю, але на зямлі гэтай з усім людам ствараць вобраз 25-цігоддзя.

У палове 50-тых гадоў падзялілася даўнейшая Бельская зямля на тры землі. Для выгоды гаспадаркі, людзей, адміністрацыі.

Бельск астаўся цэнтрам зямлі разложыстых палёў, паветам выключна сельскагаспадарчай прадукцыі, з перавагай старэйшых людзей на вёсцы, бо маладыя ў тыя бурлівыя часы адыходзілі ў прамысловыя цэнтры, на Слёнск, на Пабярэжжа. На самой Бельскай зямлі заставаліся бацькі на гаспадарках, на якіх не заўсёды ўмелі належна гаспадарыць. Так было. Зараз змянілася сітуацыя. Сярод новай генерацыі маладых бачым прывязанасць да сваёй Бельскай зямлі, да роднага кутка. Прывязанасць бывае так моцнай, што адзываецца сардэчным болем нават у тых, якія калісьці пакінулі яе і рушылі ў шырокі свет. Часта вяртаюцца. З багатай практыкай новага жыцця, са свежымі думкамі, з ініцыятывай.

У самой палітыцы павета змены наступілі таксама. Бельск быў заўсёды горадам школ. Раней былі гэта школы з гуманістычным профілем. Зараз —

### БЕЛЬСКАЯ ЗЯМЛЯ СПАКОЙНАЯ З ВЫГЛЯДУ

школы, якія навучаюць людзей новай гаспадарцы павета. Якраз праз прызмат змен у школьніцтве Бельскага павета бачым напрамак тамтэйшых улад. І так: на месцы педагагічнага ліцэя (які, як і ўсе педагагічныя ліцэі, ліквідуецца) уваходзіць засадніча завадовая школа з напрамкамі: механічным і электрычным. Новай з'яўляецца засадніча сельскагаспадарчая школа. Пры Бельскім будаўляным прадпрыемстве пачала працу засаднічая будаўнічая школа. Акрамя іх ёсць тэхнікум сельскагаспадарчай рахунковасці, эканамічны тэхнікум. Два агульнаадукацыйныя ліцэі і медыцынскі ліцэй медсёстраў дапаўняюць вобраз школьнага горада Бельска. Што школьніцтва Бельскага павета стала на службу гаспадаркі гэтага павета, сведчаць таксама школы з сельскагаспадарчым профілем у Рудцы, Орлі, Бранску, Філіпах.

Дасягненні культурныя людзей Бельшчыны!? Іх размеры цяжка ўлавіць. Культуры не мерыцца толькі лікамі. Культурныя дасягненні мерацца неспакоем, які не дазваляе чалавеку задавальняцца тым, што асягнуў, пхае яго да новых пошукаў, да новых здабыч, пхае яго да навукі і працы.

Умовы для культурнай дзейнасці ў Бельскім павеце ў апошні час палепшыліся і перш за ўсё ў бібліятэказнаўстве. Бельская павятовая бібліятэка атрымала новы будынак, дзе можа развіваць шырокую метадычную і чытальніцкую працу. Бельскае бібліятэказнаўства, гэта пасля школьніцтва, другое вялікае дасягненне Бельскай зямлі ў яе 25-годдзі. Сетка грамадскіх бібліятэк і бібліятэчных пунктаў пакрыла павет раўнамерна і даступна. Там, дзе на парозе 25-годдзя былі вёскі забітыя дошкамі, дзе густа блыталіся людзі непісьменныя, дзе не чутны былі на вёсцы радыё, тэлевізія, кіно, клубы, бібліятэкі, чытальні, там цяпер усё гэта ёсць.

Бельская палявая зямля ўслалася дарогамі, большасць якіх выканана

Працяг на стар. 4

# Падзеі ◆ Здарэнні ◆ Факты ◆ Каментарыі ◆ Весткі



## СВЕТ

### МАСКОЎСКАЯ НАРАДА

Калі аддаем гэты нумар да друку, у Маскве праходзіць міжнародная нарада камуністычных і рабочых партый. На нараду прыбылі прадстаўнікі 75 партый.

На першым пасяджэнні быў аднагалосна зацверджаны наступны парадак дня нарады:

**1. Задачы барацьбы супраць імперыялізму на сучасным этапе і адзінства дзеянняў камуністычных і рабочых партый, усіх антыімперыялістычных сіл.**

**2. Аб дакуменце ў сувязі са 100-годдзем з дня нараджэння У. І. Леніна.**

Дэлегацыю ПАРП узначальвае І сакратар ЦК ПАРП Уладзіслаў Гамулка. У склад дэлегацыі ўваходзяць члены Палітычнага бюро ЦК ПАРП — Юзэф Цыранкевіч, Зэнан Клішка і Станіслаў Кацёлак, сакратар ЦК — Артур Старэвіч, кіраўнікі аддзелаў ЦК — Юзэф Чэсак і Анджэй Вэрблян.

У другім дню нарады выступіў Уладзіслаў Гамулка. Прадстаўнікі камуністычных партый з вялікай увагай прынялі прамову старшыні польскай дэлегацыі. Пануе згодная апінія, што прадстаўлена І сакратаром нашай партыі становішча ПАРП адносна праблемаў рабочага руху з'яўляецца важным, надзвычай канструктыўным укладам у працу маскоўскай нарады. Падкрэсліваецца, што І сакратар ЦК ПАРП закрануў найважнейшыя справы, навокал якіх ішлі ў рабочым руху спрэчкі, узнікалі розніцы. Выказваюцца апініі, што выступленне гэта прынесла першы, так поўны і ўлічваючы сучасныя перамены і тэндэнцыі, якія выступаюць у рабочым руху, аналіз становішча камуністаў адносна мірнага суіснавання.

Крытыка поглядаў аб непазбежнасці новай сусветнай вайны, як і крытыка рэвізіяніcцкіх інтэрпрэтацый мірнага суіснавання, падкрэсліванне, што барацьба за мірнае суіснаванне мае на мэце не стабілізацыю статус кво, але стварэнне магчыма найбольш спрыяльных умоў развязвання ў карысць сацыялізма асноўных класавых канфліктаў сучаснасці, будзе мець вялікі ўплыў на паглыбленне ў руху зразумення цеснай залежнасці паміж актыўнай барацьбой за мір і барацьбой за прагрэсіўнае пераўтварэнне свету.

Падкрэсліваецца таксама тую частку прамовы, у якой тав. Гамулка прааналізаваў становішча, якое існуе ўнутры рабочага руху. Звяртаецца пры гэтым увагу на глыбокую і прынцыповую ацэнку прычын разбіцця адзінства і аслаблення пралетарскага інтэрнацыяналізму, прычын, якія маюць свой супольны назоўнік у нацыяналізме, з якога вырастае так левы дагматызм, як і апартуніcцкі правы рэвізіянізм.

Выступленне Уладзіслава Гамулкі гаворыць аб глыбокіх клопатах ПАРП за ўстараненне з адносін паміж партыямі ўсяго, што тармазіць іх супрацоўніцтва, што аслабляе іх барацьбу з супольным ворагам.

Х. А.



## БССР

### ІНСТЫТУТА

Грамадскасць беларускай сталіцы адзначыла 40-годдзе Інстытута гісторыі партыі пры Цэнтральным Камітэце Камуністычнай партыі Беларусі.

Гэтай даце быў прысвечаны ўрачысты сход калектыву з удзелам прадстаўнікоў партыйных органаў, навуковых устаноў і вышэйшых навучальных устаноў. Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета Беларускай ССР Сяргей Прытыцкі ўручыў інстытуту Ганаровую грамату Вярхоўнага Савета БССР, якой інстытут узнагароджаны ў сувязі з саракагоддзем.

Базай навукова-даследчай работы інстытута з'яўляецца партыйны архіў, у якім сканцэнтраваны ўсе важнейшыя дакументы партыйных і камсамольскіх органаў Беларусі. Істотнай дзялянкай дзейнасці інстытута з'яўляецца работа па перакладу на беларускую мову твораў класікаў марксізма-ленінізма.

### ПАСЯДЖЭННЕ

Адбылося пасяджэнне Прэзідыума Вярхоўнага Савета Беларускай ССР, на якім заслухана і прадыскутавана даклад старшыні выканаўчага камітэта Светлагорскага раённага Савета дэпутатаў працоўных І. Бражніка аб рабоце раённага Савета па выкананню сваіх рашэнняў і пастаноў вышэйстаячых органаў.

У час спрэчак звернута ўвагу на праявы фармалізму і абыякавасці ў дзейнасці адміністрацыі.

### ЛУКОМЛЬСКАЯ

Магутнасці 600 тысяч кілават дасягне Лукомская ДРЭС пасля пуску паравой турбіны «Трохсоткі», выраб якой закончана ў Ленінградзе.

Лукомльская ДРЭС у будучым атрымае з Ленінграда восем турбін і генератараў па трыста тысяч кілават.

### СТУДЭНТАЎ

Савет Міністраў Беларускай ССР прыняў рашэнне аб павелічэнні ў 1969 годзе прыёму студэнтаў. Прыём расшыраецца на наступныя спецыяльнасці: матэматыка, фізіка, журналістыка, прыкладная матэматыка, эканоміка працы, тэхналогія перапрацоўкі пластычных мас.

### УСЕСАЮЗНЫ

Закончаны Усесаюзны конкурс на лепшае архітэктурна-планавае і аб'ёмна-прасторавае вырашэнне забудовы цэнтра беларускай сталіцы. У конкурсе прынялі ўдзел таксама шматлікія маскоўскія праектавыя фірмы.

Першую прэмію прысуджана беларускай праектавай фірме «Мінскпраекту».

### БАРАНАВІЧАХ

Беларускі ўрад прыняў рашэнне аб адкрыцці музычнага вучылішча ў Баранавічах.

### АТЛЕТЫЦЫ

У міжрэспубліканскіх занальных спаборніцтвах зборных каманд Латвіі, Літвы, Эстоніі і Беларусі па лёгкай атлетыцы першае месца заваявала зборная каманда Беларусі, перамагаючы з высокім лікам ачкоў.

Спаборніцтвы адбыліся на мінскім стадыёне «Дынама». (С.Я.)



## ПОЛЬШЧА

### ВЫНІКІ ВЫБАРАЎ

Дзяржаўная выбарчая камісія апублікавала абвяшчэнне аб выніках выбараў у сейм, якія адбыліся 1 чэрвеня гэтага года. Лічба асоб, якія мелі правы галасавання, раўнялася 21.148.879. Аддадзена 20.642.449 галасоў. Такім чынам у выбарах у сейм прыняло ўдзел 97,61 працэнтаў выбаршчыкаў. Аддадзена прытым 20.634.683 важныя галасы. Галасоў няважных было 7.766. На спіскі кандыдатаў Фронту адзінства народа аддадзена 20.473.114 галасоў, гэта значыць 99,22 працэнта важна аддадзеных галасоў.

### У ПОЗНАНІ

У нядзелю 8 чэрвеня адкрыты ў Познані чарговы XXXVIII міжнародны кірмаш. Прынялі ў ім удзел разам з Польшчай 40 дзяржаў.

### У ВАРШАВЕ

На пленарным пасяджэнні новавыбранай Ваяводскай рады нарадовай у Варшаве з прамоваю выступіў сакратар ЦК партыі Рышард Стшэлецкі. Падкрэсліў ён вялікае значэнне апошняй выбарчай кампаніі, глыбока дэмакратычны характар выбараў у нашай краіне, а наступна пераанапізаваў асноўныя заданні рад нарадовых у святле пастаноў II пленума ЦК партыі: **«Сесіі рад нарадовых,** — падкрэсліў прамоўца, — **павінны ў большай чымсьці дагэтуль ступені стацца месцам здаровай і слушнай крытыкі. Маем яшчэ многа з'яў негаспадарлівасці, нядбайнасці, парушэння грамадскай дысцыпліны, непашанавання права і парадку, а таксама дакучлівай, бяздушнай бюракратыі. Трэба адкрыць вострую барацьбу ўсім гэтым шкодным з'явам».**

### САВЕЦКАЯ ПЕСНЯ

У Зялёнай Гужэ закончыўся V фестываль савецкай песні. Прыняло ў ім удзел 39 салістаў і 4 вакальныя калектывы. Найлепшым выканаўцам савецкай песні журы прызнала **Збігнева Рагоўскага** з Гданьска.

### РАСПІСАННЕ

Ад 1 чэрвеня ўвайшло ў карыстанне новае расписанне руху аўтобусаў і цягнікоў. Аўтобусы будуць адбываць штодзённа па звыш 7 тысяч выездаў больш чымсьці ў папярэднім расписанні. Пабольшылася таксама колькасць аўтобусных паўстанкаў на 1880. Для поўнага забеспячэння патрэб насельніцтва не хапае аднак каля 600 новых аўтобусаў. Чыгунка пабольшыла на 3 працэнты лік месцаў у цягніках, наступіла скарачэнне часу пераезду 16 электрычных цягнікоў.

### ЗРАЎНАННЕ

Публікацыя ГУС-у падае, што ад 1964 года наступіла ў краіне далейшае зраўнанне заработкаў. У 1964 годзе ніжэй 1000 злотых зарабляў кожны 10 працаўнік, у 1968 — толькі кожны 17. Адначасова звыш 3000 злотых у 1964 г. зарабляў кожны 8 працаўнік, а ў 1968 — толькі кожны 5. (п)



## ВАЯВОДСТВА

### ПАСЛЫ БЕЛАСТОЧЧЫНЫ

Як вынікае з афіцыйнага камюніке Дзяржаўнай выбарчай камісіі, у выніку выбараў праведзеных 1 чэрвеня 1969 года, пасламі Беласточчыны ў сейм Польскай Народнай Рэспублікі былі выбраны:

У выбарчай акрузе № 9 у Беластоку: З. Новак, Э. Красоўская, А. Лашэвіч, А. Ляўко, Т. Плаўскі, К. Маршалэк-Млыньчык і М. Адамец.

У выбарчай акрузе № 10 у Элку: Я. Рызнар, Э. Міклашэвіч, Е. Гагмаер, Я. Савіцкі і З. Руксцінскі.

У выбарчай акрузе № 11 у Ломжы: Б. Падэдворны, С. Юхніцкі, С. Навінскі, Ю. Зайкоўскі і С. Дэмбоўскі.

### ПЕРШАЯ СЕСІЯ

Сярод 137 кандыдатаў у выніку апошніх выбараў раднымі Ваяводскай рады нарадовай у Беластоку было выбрана 100 чалавек. Гэтыя людзі атрымалі наш давер і ад нашага імя будуць на працягу чатырох год кіраваць жыццём Беластоцкага ваяводства.

Нававыбраныя радныя 9-га чэрвеня г.г. сабраліся на сваю першую пленарную сесію. Яны склалі прысягу на вернасць сваёй айчыне, заслухалі і абмеркавалі даклад аб ходзе і выніках выбарчай кампаніі, зацвердзілі план працы ВРН у II-гім паўгоддзі гэтага года, выбралі Прэзідыум і рабоча-праблемныя камісіі ВРН.

### СЕЛЬСКАГУРТКОЎСКІ ПЛЕНУМ

У Тыкоціне адбылося пленарнае пасяджэнне Ваяводскага праўлення Саюза сельскагаспадарчых гурткоў Беластоцкага ваяводства. Было яно прысвечана ацэнцы ажыццяўлення пастаноў IX пленума ЦК ПАРП. У час пасяджэння яго ўдзельнікі сцвердзілі, што ў мінулым сельскагаспадарчым годзе гурткі Беластоцкага ваяводства дабіліся шматлікіх поспехаў. Між іншым дасягнулі яны таго, што кожны сельгасгурткоўскі трактар працаваў па звыш 1000 гадзін.

### МЕЛІЯРАНТЫ — ПЕРАДАВІКІ

Калектыў раённага меліярацыйнага прадпрыемства ў Бельску аказаўся самым лепшым у Беластоцкім ваяводстве. У спаборніцтве ў мінулым годзе заваяваў ён першае месца. Бельскае меліярацыйнае прадпрыемства існуе ўжо 25 год.

### РЭЕСТРАЦЫЯ

Сяляне ўжо ведаюць, што ў чэрвені кожнага года дзяржаўная статыстычная служба праводзіць поўную рэестрацыю сельскагаспадарчай маёмасці. У гэтым годзе сельскагаспадарчы перапіс праводзіцца 12—17 чэрвеня. Вынікі перапісу будуць выкарыстаны толькі для гаспадарчага планавання.

### ПЕРАМОГА БЕЛАСТОЦКІХ ШКОЛЬНІКАЎ

Польскае тэлебачанне ад даўжэйшага часу праводзіла спаборніцтвы школьнай моладзі па спартыўнай падрыхтоўцы. Быў гэта так званы «Конкурс 5-ці мільёнаў». У гэтым конкурсе найлепшай у краіне аказалася каманда пачатковай школы № 9 у Беластоку. Цешымся і віншуем. (вр)




**Niedziela, 15.VI.**

9.00 Program dnia. 9.05 TV Kurs Rolniczy: ,,Pytania i odpowiedzi". 9.40 ,,Przypominamy, radzimy". 10.00 Dla młodych widzów: ,,Pozdrowienia od przyjaciół" (Wilno). 10.45 Program filmowy. 11.15 ,,Melodie na dzień dobry". 11.35 ,,Kronika 50-lecia Kraju Rad" — rok 1939. 12.05 Dziennik. 12.20 Przerwa. 14.00 Program dnia. 14.05 ,,Przemiany". 14.35 ,,My-69" — teleturniej. 15.40 PKF. 15.50 ,,Felieton literacki". 16.10 ,,Ojciec i syn" — film franc. 16.40 ,,Mała historia filmu polskiego" cz. IV (,,W starym kinie"). 17.45 ,,Klub Sześciu Kontynentów". 18.30 ,,Pod Bramą Floriańską" — program rozrywkowy. 19.20 ,,Dobranoc". 19.30 Dziennik. 20.05 ,,Poszukiwacze złota" — film fab. USA (western). 21.30 ,,Dean Martin przedstawia" — filmowy program rozrywkowy. 22.15 Wiadomości sportowe.

**Poniedziałek, 16.VI.**

15.25 Program dnia. 15.30 i 22.15 Politechnika TV, kurs przygotowawczy. 16.35 Dziennik. 16.45 Dla dzieci. ,,Zwierzyniec". 17.30 ,,Echo stadionu". 17.50 Wczoraj i dziś Konina" — film polski. 18.10 ,,Kino Krótkich Filmów". 18.40 ,,Eureka". 19.20 ,,Dobranoc". 19.30 Dziennik. 20.10 Teatr TV na świecie: ,,Wierny i lojalny sługa" (widowisko TV ngielskiej). ok. 21.25 ,,Pejzaże". 21.55 Dziennik.

**Wtorek, 17.VI.**

9.00 Dla szkół (kl. I i II lic.) Język polski. Z. Skowroński ,,Mistrz". 9.35 ,,12 milionów Holendrów" — film dok. hol. 11.00 Przerwa. 12.45 i 15.00 Przysposobienie Rolnicze: ,,Letnie żywienie zwierząt". 13.15 Przerwa. 14.55 Program dnia. 15.35 i 22.30 Politechnika TV I roku. 16.05 i 23.05 Politechnika TV I roku. 16.35 Dziennik. 16.45 ,,Na zdrowie". 17.05 ,,Toledo" — film hiszp. 17.25 ,,Prognozy polskiej chemii". 17.55 Telewizyjny Ekran Młodych. 19.20 ,,Dobranoc". 19.30 Dziennik. 20.10 Magazyn Medyczny. 20.45 Koncert solistów Teatru Opery i Baletu z Tbilisi. 22.10 Dziennik.

**Środa, 18.VI.**

10.00 ,,Pożar lasu" — film (,,Ścigany"). 10.55 Dla szkół (kl. VII) Fizyka: ,,Zapis dźwięku". 11.25 Przerwa. 15.15 Program dnia. 15.20 i 22.45 Politechnika TV, kurs przygotowawczy. 16.25 Dziennik. 16.35 Dla młodych widzów: ,,Latający Holender". 17.10 ,,Magazyn ITP". 17.20 ,,Nowiny" — magazyn postępu rolniczego. 17.45 TV Kurier Warszawski. 18.05 ,,Dialogi historyczne". 18.30 ,,Giełda piosenki". 19.20 ,,Dobranoc". 19.30 Dziennik. 20.05 ,,Pożar lasu" — film (,,Ścigany"). 21.00 ,,Światowid". 21.30 PKF. 21.40 ,,Sylwetki X Muzy" — Kalina Jędrusik. 22.05 Dziennik.

**Czwartek, 19.VI.**

15.15 Program dnia. 15.20 i 22.40 Politechnika TV I roku. 16.25 Dziennik. 16.35 Dla młodych widzów: ,,Ekran z bratkiem". 17.40 TV Kurier Białostocki. 18.00 Sprawozdanie z międzynarodowych zawodów lekkoatletycznych o Memoriał Janusza Kusocińskiego. 19.20 ,,Dobranoc". 19.30 Dziennik. 20.10 ,,Gawędy o współczesności". 20.25 ,,Poligon". 20.55 ,,Walizka w kratkę" — film fab. rum. 22.20 Dziennik.

**Piątek, 20.VI.**

10.00 ,,Walizka w kratkę" — film fab. rum. 11.25 Przerwa. 15.25 Program dnia. 15.30 i 22.40 Politechnika TV I roku. 16.35 Dziennik. 16.45 Dla dzieci: ,,Kino Ptyś". 17.05 Dla dzieci: ,,Miś z okienka". 17.20 TV Kurier Mazowiecki. 17.35 ,,Nie tylko dla pań". 18.00 Sprawozdanie z międzynarodowych zawodów lekkoatletycznych o Memoriał Janusza Kusocińskiego. 19.20 ,,Dobranoc". 19.30 Dziennik. 20.10 ,,Horyzonty". 20.40 ,,Śpiewa Tom Jones" — film ang. ok. 21.10 Magazyn ,,Postęp". 21.40 ,,Pieśń o naszym morzu" (Estrada Poetycka). 22.20 Dziennik.

**Sobota, 21.VI.**

10.00 ,,Lecą żurawie" — film fab. radz. 11.30 Przerwa. 16.10 Program dnia. 16.15 Program Tygodnia. 16.35 Dziennik. 16.45 ,,Przechodniu uważaj" — film pol. 17.00 ,,W przestworzach czyli ciekawe opowieści lotników". 17.15 ,,Spotkania z przyrodą". 17.40 ,,Warszawa, ja i Ty". 18.05 ,,Teraźniejszy i przyszły" — rep. film. 18.35 Z cyklu: ,,Przez granice i kontynenty" — rep. film. pot. ,,Literatura polska w świecie". przekład. 19.20 ,,Dobranoc". 19.30 ,,Monitor". 20.10 Pieśń świętojańska o sobótce". 21.00 Dziennik TV i Wiadomości sportowe. 21.20 Kino Interesujących Filmów: ,,Lecą żurawie" — film fab. radz.




**Piątek, 13 czerwca**

8.00 Nowiny. 8.15 ,,Cuda przyrody". 8.30 Dla przedszkolaków. 14.55 Program dnia. 15.00 Nowiny. 15.10 Teatr literacki. 16.00 Dla uczniów o szachach. 16.20 ,,Czyn nieśmiertelny". 16.55 ,,Panorama nowin". 17.10 ,,Nasze wywiady". 17.20 ,,Młode głosy". 17.50 ,,Zdrowie". 18.30 ,,Sztafeta nowin". 19.15 ,,Sprawa martwego tygrysa". Spektakl TV. 20.45 Koncert zespołu ,,Gruzja". 21.45 Mistrzostwa świata w szachach.

**Sobota, 14 czerwca**

8.00 Program rozrywkowy. 8.30 ,,Standartyzacja i postęp". 9.00 Utwory Gorkiego, Bunina i Czechowa czyta E. Kaminka. 9.40 ,,Ziemia i jej wykorzystanie". 10.00 ,,Szkatułka muzyczna". 10.15 Przegląd międzynarodowy. 10.30 Spektakl teatralny dla uczniów. 12.00 ,,Maturzysta—69". 12.30 Filmy animowane dla dzieci. 13.00 Nowiny. 13.15 Reklama. 13.30 W eterze ,,Młodość". 14.30 ,,Kurier wiejski". 15.00 TV barwna. 16.30 Nowiny. 16.45 Almanach TV. 18.00 "Leninizm — sztandarem naszej epoki". 18.30 Program muzyczny. 19.30 Spektakl TV. 20.45 ,,Spadające gwiazdy". Program z Pragi. 21.30 ,,Tylko fakty".

**Niedziela, 15 czerwca**

8.00 ,,Kiosk muzyczny". 8.30 ,,Skarby Leningradu". 9.00 ,,Droga do nauki". 10.00 ,,Operacja ,,Bagration". 10.30 ,,Powiew wieku". 11.00 W eterze ,,Młodość". 14.45 ,,Czas". 15.00 TV barwna. 17.30 ,,Kalejdoskop piłkarski". 17.55 Piłka nożna. ,,Dynamo" (Mińsk) — ,,Spartak" (Moskwa). 18.45 Film animowany dla dorosłych. 19.15 Program międzynarodowy. 20.00 Spektakl teatralny. 21.15 Program z Berlina. 21.45 ,,Tydzień sportowy".

# FINIS KORONAT OPUS



**Дырэктар Гайнаўскага ліцэя А. Іванюк уважна сочыць за працай пішучых.**

І зноў, як кожны год, закончыўся гарачы час у ліцэях і тэхнікумах, закончылася матура, адзін з перыядаў і парогаў жыцця, які на доўга астанецца ў памяці. Не падвяла пагода, не было горача, і, як заўсёды, не падманлівымі асталіся каштаны, якія сваім квеццем віталі пачынаючых пісьмовыя экзамены маладых людзей.

У двух агульнаадукацыйных беларускіх ліцэях Бельска і Гайнаўкі да пісьмовых экзаменаў прыступіла 143 абітурыенты. Зразумела, нас найбольш цікавілі тэмы па беларускай мове, а вось яны: 1. **Асноўныя тэмы і матывы творчасці М. Багдановіча. 2. Мужык і праблема сялянства ў дарэва-**



**Экзаменацыйная камісія ў Бельскім ліцэі.**

**люцыйнай творчасці Я. Купалы і Я. Коласа. 3. Беларускае літаратурнае жыццё ў Народнай Польшчы.** Пацешыў тут нас і той факт, што «Ніва», хаця можа ў невялікай ступені, на працягу цэлага года змяшчала матэрыялы, якія папоўнілі веды патрэбныя на экзамене.



**Агульны від матуральнай залы ў Бельску.**



**А. Адзеевіч упэўнена піша працу.**

Сярод 69 абітурыентаў бельскага ліцэя, якія здавалі матуральныя экзамены, знаходзім такіх выдатнікаў, як **Аля Адзеевіч** з XI «а» класа, **Уладзімір Сяргеюк** і **Мікола Бандарчук** з XI «б».

А вось што сказаў нам дырэктар бельскага ліцэя **Мікола Гайдук:**

— Агульна можна сказаць, што сёлеташняя матура падрыхтавана добра. Не было праблем з дапушчэннем да матуры... Можна спадзявацца, што вынікі матуры будуць нядрэннымі... Звыш 80% выбіраецца ў вышэйшыя навучальныя ўстановы. Асабліва многа выбіраецца на рускую філалогію ў ВСН у Беластоку і ў Варшаву ва ўніверсітэт. Традыцыйна ўжо шмат абітурыентаў рыхтуецца на ВСІнж. у Беластоку.

Нараджаецца думка, ці не варта пры бельскім ліцэі



**У. Сяргеюк: кожнае слова трэба перадумаць.**

адкрыць клас са спецыялізацыяй рускай мовы? Здаецца, тут ёсць найвялікшыя магчымасці, беручы справу з кожнага боку. Адным словам, варта гэта перадумаць.

Дырэктар Гайнаўскага агульнаадукацыйнага ліцэя **Аляксандр Іванюк** інфармуе:

— Прыступіла да матуральных экзаменаў 74 абітурыенты. Мяркую, што матура павінна прайсці нядрэнна... Узравень класаў быў наогул няроўны... Каля 80% выбіраецца ў вышэйшыя і паматуральныя школы. Радуе нас вельмі той факт, што нашу моладзь характарызаваў вельмі сур'ёзны падыход да экзаменаў і ў час экзаменаў.

Сярод здаючых знаходзіліся такія выдатнікі як: **Валя Ляшчук,** якая выбіраецца на хімію ў Лодзь, **Леаніда Лясота** — УВ, **Анатоль Кердэлевіч** — ВСІнж., **Яраслаў Кавальчук і Мар'я Кур'яновіч.**

Астаецца нам віншаваць усіх абсальвентаў абодвух наведаных намі ліцэяў і ўсіх матурыстаў з уступленнем на новую старонку жыцця і пажадаць усяго добрага і радаснага ў жыцці.

**А. К.**

фота аўтара

САМАДЗЕЙНІКІ З АРЭШКАВА

# СЛОВАМ І ПЕСНЯЙ

Можа яшчэ не смела, але ўжо можна падагульніць, што аматарскі мастацкі рух у Гайнаўскім павеце прыймае больш за ўсё эстрадную форму. Ці гэта добра, ці кепска, найлепш ведаюць самі арганізатары, удзельнікі і адбіральнікі гэтай формы культурнай дзейнасці. Адно з'яўляецца бяспрэчным, што малыя эстрадныя формы аматарскага руху адпавядаюць найлепш памяшкальным умовам у існуючых на вёсках клубаў.

Адным з такіх мастацкіх калектываў ёсць тэатральна-эстрадная група з **Арэшкава.** Працуе яна пры клубе кніжкі і прэсы «Рух», а кіраўніком групы з'яўляецца **Гэлена Бугвін,** якая адначасова ёсць гаспадыняй клуба. Вядзецца тут вельмі цікавая праца. Гаворым цікавая таму, што сам калектыў згуртоўвае 13 маладых людзей з вёскі Арэшкава. У калектыве 5 дзяўчат, а апошнія хлопцы. Гэта людзі розных прафесій: ёсць гаспадары, кіраўнік пошты, рабочыя прадпрыемстваў, служачыя і ўрэшце дзве вучаніцы.

Праграму склалі такую, якая ім найбольш падабаецца. Апрача скетчаў і тэатральнай сцэнкі ў праграму ўключылі шмат сучасных польскіх маладзёжных песень. Вынікі? Выступалі некалькі разоў у сваёй вёсцы, у Дубічах Царкоўных, у Семяноўцы, а ў плане — наведанне Старога Ляўкова, Нараўкі і т.д. Ацэнка? У Семяноўцы не толькі вельмі цёпла прыймалі калектыў з Арэшкава, але тамтэйшая моладзь выказвае пажаданне, каб яшчэ раз прыехала група з Арэшкава нават з той жа самай праграмай. Гэта хіба найлепш адлюстроўвае і вынікі і ацэнку.

Зразумела, калектыў з Арэшкава не арганізаваўся, каб прыняць удзел у нейкім фестывалю, конкурсе. А калі б прышлося сустрэць мне чалавека, які б зрабіў мне закід, што расхвальваю арэшкаўскую моладзь, не асталося б мне нічога іншага, як пажадаць, каб моладзь мясцовасці майго размоўцы арганізавала лепшы калектыў.

Калі я запытаў прадстаўнікоў арэшкаўскага калектыву адкуль бяруць рэпертуар у сваю праграму, адказалі проста: кожны з нас збірае, і з розных крыніц, напрыклад, песні па радыё, «Гелды пясэнкі», газет, журналаў і т.п. Калектыў мае і свае клопаты. Хаця б наступнае. Ёсць такі пан з Арэшкава, які працуе ў Гайнаўцы ў адным з лясных прадпрыемстваў, і які не толькі што не дапамагае, але за ўсялякую цану хоча разбіць калектыў. Напрыклад, нагаварвае паасобных членаў калектыву, каб не хадзілі на рэпетыцыі і т.п. Думаю, што наша безіменная перасцярога павінна нечага навучыць пана. А калі гэта не паможа, дык мы ў будучыні пастараемся апублікаваць прозвішча гэтага непрыхільніка моладзі.

**А. К.**

VI З'ЕЗД БГКТ

# ПАТРЭБНЫ НАМ КАДРЫ

**(З ВЫСТУПЛЕННЯ ДЭЛЕГАТА ГАЙНАЎСКАГА АДДЗЕЛА ВАСІЛЯ ДЗУНА)**

Таварышы дэлегаты! Я хацеў бы сказаць некалькі слоў аб Гайнаўскім аддзеле БГКТ, які згуртоўвае найбольш членаў, у якім налічваецца 70 гурткоў. Аднаму інструктару, які ў нас працуе на палавіне штата, цяжка абслужыць такую колькасць гурткоў. Ад гэтага церпіць арганізацыйная праца і аматарскі рух. У дапамогу інструктару прыходзяць актывісты аддзела. Аднак і гэтага недастаткова. Тут, на мой погляд, неабходна прыдаць Гайнаўскаму аддзелу яшчэ аднаго штатнага працаўніка, спецыяліста па культурна-асветных справах.

А вось другая справа, на якую хацеў бы звярнуць увагу таварышаў дэлегатаў. Думаю пра ўмовы працы Гайнаўскага беларускага ліцэя. Не адна школа ў Гайнаўцы не працуе ў так цяжкіх ўмовах. Пераважная колькасць вучняў гэтага ліцэя — дзеці з вёсак. А школа не мае інтэрната. Вучні таўкуцца па цягніках і аўтобусах. Няма дзе ім падзецца. Разыходзіцца пра тое, каб як найхутчэй пачаць пабудову новага будынка.

Важна гэта таму, што ліцэі, у якіх навучаецца беларуская моладзь, з'яўляюцца кузняй, дзе выхоўваюцца спецыялісты для асветна-культурнай дзейнасці.



Фота Цаф — Сянько

У сувязі з тым, што ліквідуюцца педагагічныя ліцэі, трэба было б арганізаваць аддзяленне беларускай філалогіі пры Вышэйшай настаўніцкай школе ў Беластоку. Можна было б спалучыць яе разам з рускай філалогіяй, ці неяк інакш — гэтага не ведаю, але ведаю, што, каб развівалася беларускае школьніцтва, патрэбны кадры. Яны ж з неба, бы гэтая біблійная манна, не будуць нам падаць. У Сакольскім і ў Дуброўскім павеце, для прыкладу, прыходзілася спыняць навучанне беларускай мовы, бо не было падрыхтаванага настаўніка. Дык я вось звяртаюся да прадстаўнікоў улад і Галоўнага праўлення БГКТ, каб гэтую справу неяк абмеркаваць і вырашыць яе.

А цяпер справа этнаграфічнага музея ў Белавежы. Шмат працы ўкладзена ўжо ў збор каштоўных экспанатаў. Але яшчэ больш іх у вёсках. Яны там бескарысна нішчэюць. Дык звяртаюся да ўсіх гурткоў БГКТ, каб збіралі гэтыя экспанаты, каб іх забяспечвалі. Мае гэта вялікае прапагандовае значэнне. Не толькі ў нас у краіне, але і за мяжой. Прыязджаюць да нас турысты, глядзяць, як калісьці жылі тут людзі, параўноўваюць, як жывуць цяпер, і гэта найлепш пераконвае іх аб нашых дасягненнях. Дык звяртаюся да ўлад і да Галоўнага праўлення, каб як найхутчэй пабудаваць для нашага музея адпаведны будынак, дзе можна было б паказаць усе гэтыя экспанаты, дзе працаўнік музея не замярзаў бы зімой, як было дагэтуль. Цяперашні будынак зусім неадпаведны.

# АДНЫМ БЕДАВАННЕМ НІЧОГА НЕ ЗРОБІМ

**(З ВЫСТУПЛЕННЯ АКТЫВІСТА ГП БГКТ УЛАДЗІМІРА СТАНКЕВІЧА)**

Дарагія таварышы! Наглядаючы за дзейнасцю таварыства ў міжз'ездаўскі перыяд, трэба прызнаць, што Прэзідыум Галоўнага праўлення БГКТ працаваў актыўна. Былі выпрацаваны новыя формы дзейнасці. Маю тут на ўвазе выязныя пасяджэнні Прэзідыума, якія наладжваліся ў розных аддзелах. Гэта вельмі добрая форма і яе надалей трэба прымяняць яшчэ шырэй, бо гэта дае лепшую магчымасць знаёміцца Прэзідыуму з рознымі недахопамі ў працы аддзелаў. Гэтым чынам мы даб'емся таго, што малаважныя справы не будзем вымушаны разглядаць на пленарных пасяджэннях Галоўнага праўлення БГКТ, як гэта здаралася даволі час-



 

Пачатак на стар. 1

# Бельская зямля спакойная з выгляду

грамадскім чынам. Па дарогах гэтых уваходзіць у бельскую вёску нашае новае, сацыялістычнае. Ідзе яно з электрычнай іскрай і электрычнай лямпачкай у хаце (у Бельскім павеце электрыфікаваных зараз амаль 80% вёсак, тых найбольш людных), з тэлевізійным экранам (зараз у сярэднім 5 тэлевізараў прыпадае на адну бельскую вёску). Ідзе яно-новае з вялікай механізацыяй працы, з хуткай лекарскай дапамогай.

У клубах (іх 16), святліцах (іх 8) штодзень дзесяткі загалоўкаў газет прыносяць навіны са свету. Грамадскім чынам на гэтай зямлі адбудавалася 23 будынкі для клубаў і святліц. Дзеячы Бельшчыны вядуць 71 мастацкі калектыў. У апошні час і на прывязаную да традыцыі Бельскую зямлю ўваходзяць зусім сучасныя формы культурнага руху. У горадзе Бельску працуе музычнае агніска, у якім 100 дзяцей вучыцца іграць на розных інструментах. Філіял агніска ёсць і ў Боцьках з 20-цю асобамі ўдзельнікаў. У планах Бельска на будучую пяцігодку — павятовая музычная школа.

Не мае Бельская зямля гарадоў кром Бельска і невялічкага Браньска. Але мясцовасці як Боцькі, Орля, Страбля, Рудка вырастаюць на культурныя цэнтры, якія гуртуюць вакол сябе бліжэйшыя вёскі.

Заехала я ў Бельск зараз пасля павятовага дня дзеяча культуры. Расказвалі мне, якое прыемнае было гэта свята. З'ехаліся людзі, якія ў сваіх мясцовасцях наштодзень твораць новую культуру Бельскай зямлі. Многіх з тых людзей ведаю асабіста і захацелася іх тут назваць. Кідаецца ў вочы, што культурныя дзеячы Бельшчыны выводзяцца з настаўнікаў: Сяргей Філіпюк з Рыбал, Аляксей Максімюк з Паўлаў, Аляксандра Панасюк з Пасынак. У Лубіне — Марыя Васілеўская, у Кальніцы — Збігнеў Паплаўскі і Збігнеў Багінскі — другі з'яўляецца кіраўніком бібліятэкі. У Боцьках дзейнічае найлепшая светліцовая ў Беластоцкім ваяводстве Генавефа Луцыян. Бельскай павятовай бібліятэкай ужо 18 год кіруе Арцём Чыквін. А Мікалай Турковіч расславіў Боцькі сваім калектывам — «Фіглярныя дзяўчаты», а зараз, ужо працуючы ў школе ў Бельску, арганізаваў новы «Меладыйныя праменьчыкі».

Сакратар прапаганды Павятовага камітэта партыі ў Бельску імёны і прозвішчы бельскіх дзеячаў называе з памяці, ведае іх і цэніць. Падінспектар да спраў культуры аддзела асветы ў Бельску Антаніна Куна хваліцца, што старшыня Прэзідыума ПНР у Бельску дацэньвае значэнне культурнай дзейнасці і сказаў ёй: плануй, дам грошы на культуру колькі трэба будзе.

**Вера Леўчук**

# ГАРЦЭРСТВА Ў НАСТУПЛЕННІ

На папярэдняй IV канферэнцыі беластоцкія гарцэры забавязаліся, што сваю V канферэнцыю прывітае 100 000 гарцэраў Беласточчыны. Заданне выканана. У канцы 1968 г. ЗГП у Беластоцкім ваяводстве налічвала **106 587** зухаў, гарцэраў і гарцэрскіх інструктараў. Гэтая 100-тысячная армія праводзіла аграмадную выхаваўча-ідэйную працу ў 1965—1968 гадах. У рэалізацыі т.зв. кампаніі «Сувязь» найбольш папулярнай была «Акцыя 2 тыс. мікракурсаў на фаховыя спраўнасці». Асабліва цэннай была гэтая акцыя з пункту гледжання тэхнічных зацікаўленняў дзяўчат і хлопцаў. Мікракурсы давалі магчымасць навукі, як паслугоўвацца найпрасцейшымі прыладамі і выконвання простых рамонтаў. Дзякуючы ім навязана многія кантакты з людзьмі розных прафесій, сярод якіх гарцэры знаходзілі сваіх саюзнікаў. Найбольш мікракурсаў арганізаваў **гуфец Саколка (109)** і ў гэтым жа гуфцу паўстала 10 новых кругоў прыяцеляў гарцэрства. Істотны ўплыў на фарміраванне поглядаў маладога чалавека мелі гарцэрскія алерты. Паколькі мы інфармавалі аб выніках іншых, падамо, што толькі ў час V алерту як дадатковае заданне — супрацьпажарная ахова — гарцэры ўпарадкавалі супрацьпажарныя прылады і забяспечылі ўласныя будынкі ў **50224** выпадках. Зарэгістравана таксама **23715** будынкаў без громаадводаў. Можна смела сказаць, што зараз няма ніводнай сялібы ў ваяводстве, якая б не была кантраляванай, у сэнсе супрацьпажарнага забеспячэння, гарцэрамі.

Цікавую форму працы праводзіць **гуфец Беласток,** які прыняў праграмную кампанію **«Маладыя гаспадары вёскі».** Гарцэры прывучаюцца тут да прафесіі гаспадара, праводзячы экскурсіі, у час якіх знаёмяцца не толькі з гісторыяй вёскі, але перш за ўсё з дасягненнямі сённяшняга дня. Сустрэчы з прыкладнымі гаспадарамі, з абсальвентамі і вучнямі сельскагаспадарчых школ, візіты ў ПГР і сельгасгуртках і ўрэшце самастойная праца на доследных участках пераконваюць дзяцей і моладзь, што прафесія гаспадара цікавая, патрэбная і цэнена грамадствам.

Аб грамадскім заангажаванні сведчыць і той факт, што гарцэры Беласточчыны напярэдадні V з'езда ПАРП далажылі Ваяводскаму камітэту партыі, што выканалі з'ездаўскі чын, вартасць якога больш **5,5 мільёна зл.** Гэтыя чыны працягваюцца далей у час пачатай кампаніі «Укаханы край». Варта дадаць, што ў т.зв. акцыі «Залатое руно» ад моманту яе ўзнікнення Беластоцкая харугвя займае **II месца ў краіне.** У 1967 г. лагеры і групы нялагернага лета сабралі каля **8 тон** ляснога руна, а ў 1968 г — **21 тону.**

Істотнае месца ў працы арганізацыі займае тэма дружбы і салідарнасці народаў. Ілюстрацыяй можа тут быць **ініцыятыва шчэпу «Сполэм» пры пачатковай школе № 23 імя Людвіка Заменгофа ў Беластоку** ў справе збору навуковых дапаможнікаў для в'етнамскіх калегаў. Быў гэта адказ гарцэрства на факт бамбардзіроўкі школы імя польска-в'етнамскай дружбы амерыканскімі агрэсарамі ў В'етнаме. Ініцыятыву падтрымалі гарцэры ўсяе краіны, а яе эфект — **14 тон** школьных прылад і лякарстваў, у тым ліку **4 тоны** ад гарцэраў Беласточчыны.

Можна множыць дасягненні гарцэрскага наступлення, наступлення цудоўнага.

**Аляксей Карпюк**

Пачатак на стар. 1

# Свежыя раны

ляць між рабочых, як заплату за працу. Пасля выменьвалі гэтыя кафлі ў сялян з навакольных вёсак на харчовыя прадукты.

Калі ўсё ўжо ўладкавалася, у мілейчыцкую кафлярню прыслалі нейкага дырэктара. Дзямян Баравік стаў майстрам. Гэты дырэктар неаднойчы падгаварваў яго: «Не будзь дураком, можна ж парадачна зарабіць. Ніхто ж не даведаецца, калі прадамо «на лева» нейкую тысячу кафляў». Дзямян адказваў яму: «Я сам рабочы і крыўдзіць рабочых не дазволю».

Першага мая 1946 года адбылася ў Мілейчыцах буйная маніфестацыя рабочых і сялян. Дзямян Баравік, член Польскай рабочай партыі, ішоў тады пад чырвоным сцягам, выступаў на мітынгу, смела граміў рэакцыйнае падполле, якое не дазваляла людзям спакойна жыць і працаваць.

21 дзень пазней...

— Уварваліся ў нашу хату. Было гэта падвечар. Мама ляжала ў ложку, бо яна тады не магла хадзіць, мела параненую ногу. Бацькі дома не было. Ён знаходзіўся ў кафлярні. Старэйшы брат кінуўся, каб папярэдзіць яго. Хлапчука аднак злавілі і збілі палкамі да непрытомнасці. Нас усіх таксама. А пасля пачалі грабіць. Усё забралі, што толькі было. Цэлы дом вывернулі ўверх нагамі. Мы без сну прасядзелі так цэлую ноч. Чакалі на бацьку. Думалі, што ён недзе ўцёк, схаваўся. Раніцай аказалася...

Маладая жанчына крадком выцірае вочы. Гэта яго дачка, Валя. Пасля расказвае далей:

— Калі татку абмылі, аказалася, што ў яго паламаныя і павыкручваныя рукі, падзіраўлена галава. Відаць доўга над ім знуткоўваліся. Прымушалі глытаць партыйны білет.

Памяць пра Дзямяна Баравіка захавалі ў сваіх сэрцах жыхары Мілейчыц. Яго іменем назвалі адну з вуліц свайго пасёлка, а на сцяне пачатковай школы вісіць памятная дошка, якая расказвае пра смерць радавога змагара за народную ўладу.

**Віктар Рудчык**

**На здымку: Дзямян Баравік, дзеяч Польскай рабочай партыі ў Мілейчыцах, які загінуў у 1946 годзе.**

### ЯК ДАСТАЦЬ МІНУЛЫЯ НУМАРЫ «НІВЫ»?

**З такім пытаннем часта звяртаюцца да нас чытачы. Паведамляем, што старыя нумары «Нівы» (але толькі да трох месяцаў даўнасці) можна набыць у гарадскім аддзеле «Руху» ў Беластоку асабіста або карэспандэнцыйна** (za zaliczeniem pocztowym).
**Падаем адрас:** Oddział Miejski „Ruch", Białystok, ul. Lipowa 32a.

### ДА З'ЕЗДА ТАВАРЫСТВА ПЛАНАВАННЯ СЯМ'І

Пад рукаводствам праф. дра Стэфана Сошкі прайшло пасяджэнне Ваяводскага праўлення Таварыства свядомага мацярынства ў Беластоку. Сталі дзве найважнейшыя справы на парадку дня.

Першая — падрыхтоўка да ваяводскага і агульнапольскага з'езда гэтага таварыства. Другая — змена назвы таварыства на «Таварыства планавання сям'і».

Ваяводскі з'езд Таварыства планавання сям'і адбудзецца ў другой палове кастрычніка г.г., а агульнапольскі — у канцы студзеня будучага года. (вл)

### 50-ГОДДЗЕ ПЦК — АДЗНАЧЭННЕ НАШАЙ РЭДАКЦЫІ

У будынку Польскага Чырвонага Крыжа ў Беластоку адбыўся мілы вечар, прысвечаны 50-годдзю дзейнасці Польскага Чырвонага Крыжа. Сабраліся многія высокапастаўленыя асобы і заслужаныя для ідэі ПЦК: старэйшыя і маладыя, прадстаўнікі розных установ і прафесій, ганаровыя донары. Былі ўручаны ганаровыя медалі ПЦК і адзнакі 50-цігоддзя.

За прапагаванне ПЦК-оўскай ідэі сацыялістычнага гуманітарызму наша рэдакцыя таксама атрымала адзнаку 50-годдзя ПЦК і ганаровы дыплом. (вл)

та. Іх на месцы вырашыць Прэзідыум разам з Праўленнем аддзела.

Думаю, што прапанову таварыша інжынера Бусловіча з Варшаўскага аддзела БГКТ у справе супольных пасяджэнняў праўленняў Беластоцкага, Варшаўскага і Гданьскага гарадскіх аддзелаў, трэба лічыць як вельмі каштоўную. Гэта добрая справа. Трэба толькі выпрацаваць для яе добрыя арганізацыйныя формы.

Са справамі метадаў працы кіруючых органаў таварыства вяжацца актыўнасць паасобных членаў Галоўнага праўлення. На членаў ГП выбіраем людзей адпаведна падрыхтаваных грамадска. Разыходзіцца пра тое, каб не толькі раз ці два разы ў год збіраць іх на пасяджэнні, але ўключаць іх у канкрэтную працу ў аддзелах, у вёсках. Дагэтуль у гэтай працы мала выкарыстоўвалася членаў ГП.

Дазвольце яшчэ некалькі слоў аб справе, якая дагэтуль не сыходзіла з парадку дня амаль кожнага пасяджэння Галоўнага праўлення — гэта справа музея. Замнога хіба над гэтай справай мы бядуем, а замала тут канкрэтнага дзеяння з нашага боку. Чуў, што незадоўга нашы экспанаты атрымаюць магчымасць памясціцца ў адпаведным будынку — у будынку дагэтуляшняга прыродазнаўчага музея ў Белавежы. Будынак нам адводзяць на чатыры гады, гэта значыць да часу пабудовы спецыяльнага гмаху. Таварыства свайго часу звярнулася ў аддзел унутраных спраў ваяводскай рады за дазволам на збор складчын на фонд пабудовы музея. Такі дазвол мы атрымалі. Здавалася б, што як найшырэй трэба нам яго выкарыстаць. Мы аднак чамусьці маўчым. Спачатку нібы пачалося збіраць у аддзелах грошы, а пасля ўсё прыціхла. А гэтай справай трэба займацца штодзённа. Тут павінна нам дапамагаць «Ніва», а «Ніва» неяк маўчыць. Трэба ж публікаваць спіскі ахвярадаўцаў, заклікаць сябе ўзаемна. Гэта ж можна рабіць, папулярызаваць. Нашае грамадства хіба стаць на гэтыя скромныя складчыны. Не толькі грамадства. Думаю, што не адкажуць нам установы і прадпрыемствы. Дадуць яны напэўна хаця б невялікія ахвяры. Прапанаваў бы паклікаць спецыяльную камісію, якая ўсебакова занялася б гэтымі справамі. Стукаць можна і трэба. Дзверы не заўсёды будуць закрыты. Адным бедаваннем, што дрэнныя ўмовы (яны безумоўна, дрэнныя), што ніхто не дапамагае, што няма грошай — мы нічога не даб'емся.

Фота Цаф — Сянько

# БЕЛАСТОК ПАВІНЕН БЫЦЬ ПРЫКЛАДАМ

(З ВЫСТУПЛЕННЯ ДЭЛЕГАТА БЕЛАСТОЦКАГА АДДЗЕЛА КАСТУСЯ СІДАРОВІЧА)

Паважаныя сябры! Хачу звярнуць увагу на справаздачу рэвізійнай камісіі. Там сказана, што фінансавыя сродкі, якія прызначыла дзяржава на дзейнасць нашага Таварыства, не былі ў мінулай кадэнцыі поўнасцю выкарыстаны. Чаму? Хай Прэзідыум Галоўнага праўлення нам гэта выясніць. У даручаных дэлегатам з'ездаўскіх матэрыялах я заўважыў, што сябры не аплочваюць членскіх складчын. Не разумею, чаму людзі не могуць плаціць гэтай сімвалічнай залатоўкі. Гэта проста звычайная абыякавасць да асноўных абавязкаў членаў БГКТ. А можа мы гонімся за лікам членаў, а не за іх якасцю? У час запісвання ў члены гэтыя справы трэба ўлічваць, паясняць людзям, што вось у нас ёсць такая складчына, што яе трэба плаціць, што гэта асноўны абавязак члена.

У гэтым жа матэрыяле заўважаюцца іншыя справы. Аказваецца, што ёсць гурткі, якія не праводзяць аніякія дзейнасці. Адна справа ў горадзе — скажам



 




## Дыялаг з дэльфінам

Кожную раніцу хлопчык стаяў на беразе Неапалітанскага заліва і клікаў свайго сябра: «Сімо! Сімо! Сімо!» І кожную раніцу на гэты голас з'яўляўся з глыбіні дэльфін і плыў да берагу. Хлопчык гладзіў сябра, даваў яму некалькі маленькіх рыбак, потым садзіўся на яго вярхом і гаварыў: «Гатова!» І па гэтаму сігналу Сімо накіроўваўся ў дарогу і перавозіў хлопчыка цераз заліў у школу.

Гісторыя гэта запісана каля дзвюх тысяч гадоў назад рымскім пісьменнікам Плініем. І да самага нядаўняга часу яе лічылі байкай. Але цяпер высветлілася, што дэльфіны сапраўды маюць дружалюбныя пачуцці да чалавека і прытым без усялякай дрэсіроўкі, гэта іх прыроджаная рыса.

Пачатак «дэльфіналогіі» быў пакладзены ў 1948 годзе, калі ў друку з'явілася паведамленне аб гіпотэзе заолага Макбрайда, які сцвярджаў, што дэльфін арыентуецца пад вадой з дапамогай нейкага прыроджанага «радара». Атрымаць пацвярджэнне гэтай гіпотэзы ўдалося толькі праз многа гадоў. Аднак да гэтага часу многія важныя «канструктыўныя дэталі» дэльфінавага радара працягваюць заставацца загадкай.

Але дэльфін спадзяецца не толькі на свой радар, зрок яго таксама добра развіты. Нават з чатырохметравай глыбіні дэльфін бачыць скрозь мутную ваду маленькую рыбку ў руцэ дрэсіроўшчыка, які стаіць на лесвіцы высока над вадой. І дэльфін умее дастаць яе прыжком, настолькі дакладна разлічаным, што вострыя зубы нават не закрануць рукі трэнера.

Нявырашанай праблемай для вучоных таксама застаецца «мова» дэльфінаў. У 1961 годзе спецыяліст па мозгу,



прафесар Джон Лілі паставіў адзін з рашаючых эксперыментаў: ён наладзіў тэлефонную размову паміж двума дэльфінамі, каб даказаць, што гэтыя жывёліны не проста падаюць прымітыўныя сігналы, а размаўляюць паміж сабой «амаль як людзі». Эксперымент быў пастаўлены ў «Інстытуце па вывучэнню сродкаў сувязі» на востраве Сент-Томас у Карыбскім моры.

Для эксперыменту былі выбраны два басейны, даволі аддаленыя адзін ад аднаго, каб гукавыя хвалі не маглі пераадольваць гэтыя адлегласці. Інжынеры ўманціравалі ў сценкі басейна мікрафоны і гучнагаварыцелі. Тэлефонныя правады паміж імі праходзілі праз цэнтральную станцыю інстытута, што дазваляла вучоным сачыць за размовай, не турбуючы дэльфінаў прамым назіраннем.

У кожны басейн пусцілі па аднаму дэльфіну. Яны пачалі кружыць па басейну і падаваць свае «пазыўныя», якімі адзінокія дэльфіны звычайна паведамляюць аб сваім месцазнаходжанні. Пачуўшы сігнал у адказ, дэльфіны неадкладна падплылі да гучнагаварыцеляў і пачалі па чарзе адказваць і слухаць. Пачалася іх першая тэлефонная размова, якая працягвалася каля гадзіны!

У першыя імгненні яны толькі паўтаралі сваё «імя» і старанна шукалі нябачнага партнёра. Але нямногіх мінут аказалася дастаткова, каб яны зразумелі, як працуе апарат. Размова вялася вельмі «ветліва». Ні адзін дэльфін не перапыняў другога, кожны ўважліва слухаў, пакуль другі скончыць, і толькі затым пачынаў гаварыць сам.

Як вядома, мова дэльфінаў заснавана на свісце. Кожная размова пачынаецца з пазыўных і адказаў. Затым ідзе серыя сігналаў-свістаў рознай працягласці, вышыні і сілы. Гэта дае магчымасць вар'іраваць інфармацыю. Асабліва паказальным аказаўся дослед, пастаўлены інжынерамі Ленгам і Смітам.

Яны запісалі гутарку паміж двума дэльфінамі па імю Дэш і Дорыс. Праз чатыры месяцы яны зноў змясцілі Дэша ў ізаляваны басейн і ўключылі запіс голасу Дорыс. Дэш вельмі ўзрадаваўся, зноў пачуўшы голас сяброўкі і радасна адказаў на яе «пазыўныя». Інжынеры з секундамерам у руках сачылі за гэтай гутаркай дэльфіна з магнітафонам. Вось і рашаючы момант — сем свістаў з моцнымі варыяцыямі, якімі Дорыс чатыры месяцы назад пачала гутарку. Аднак пасля гэтых свістаў Дэш замоўк.

Спроба была паўторана двойчы. Абодва разы самец спачатку ўступаў у размову. І абодва разы ён траціў цікавасць і змаўкаў на тым жа самым месцы. Інжынеры зрабілі з гэтага вывад, што Дорыс чатыры месяцы назад «сказала» штосьці, што страціла сэнс цяпер.

Дослед пацвердзіў гіпотэзу, што дэльфіны выпрацавалі падабенства мовы.

Заолагу Кенету Норысу ўдалося нават даказаць, што мова дэльфінаў міжнародная. Ён наладзіў тэлефонную размову паміж дэльфінам, злоўленым у Ціхім акіяне, і другім, які быў родам з Атлантычнага. Яны добра зразумелі адзін аднаго.

Аднак код мовы дэльфінаў не ўдалося расшыфраваць нават з дапамогай электроннавылічальных машын. Праўда, трэба сказаць, што задача гэта вельмі цяжкая, таму што даследчыкі не ведаюць ні магчымых правілаў пабудовы гэтай мовы, ні характару інфармацыі, што перадаецца з яе дапамогай.

Рабіліся спробы навучыць дэльфінаў чалавечай мове. Аказалася, што некаторыя дэльфіны хутка навучаюцца паўтараць асобныя гукі і словы, а некаторыя дасягаюць тых жа вынікаў толькі праз некалькі тыдняў. Аднак навучыць дэльфінаў мове людзей да гэтага часу не ўдалося.




**Плямы ад травы і марожанага**

Свежыя плямы ад травы (зялёніны) можна выдаліць гарэлкай, а яшчэ лепш дэнатуратам. Апрача таго, плямы ад зялёніны выдаляюцца звычайнай харчовай соллю (адна чайная лыжка на паўшклянкі вады). Пасля выдалення плямы тканіна прапалакваецца ў цёплай вадзе. З белых тканін травяныя плямы выдаляюцца трохпрацэнтным растворам перакісу вадароду, у які дададзена некалькі кропель нашатырнага спірту.

Ад марожанага плямы выдаляюцца сумессю гліцэрыну, нашатырнага спірту і цёплай вады. Гэтай вадкасцю праціраюць пляму, а пасля мыюць рэч у цёплай вадзе. Такім жа саставам можна выдаліць плямы ад малака.

## 6 КГ ТЫТУНЮ У ЛЁГКІХ

На міжнародным з'ездзе лекараў дацэнт Кайбл з Вены, спецыяліст па хранічных бранхітах, выступіў з цікавым дакладам аб складзе тытунёвага дыму. Аказваецца, у дыме адной-адзінай папяросы ўтрымоўваецца каля 80 мільёнаў мікраскапічных цвёрдых крупінак. Сярэдні курыльшчык за дваццаць год паглынае іх каля шасці кілаграмаў. Арганізм павінен неяк справіцца з гэтай нагрузкай і ўпарта змагаецца з тытунёвым попелам, які атакуе лёгкія. Але надыходзіць момант, калі ён ужо не дае рады, і тады цяжкая хвароба.



**Доследы над кролікамі. Гэтыя заядлыя «курыльшчыкі» дапамагаюць вучоным вывучаць прыроду ракавых наватвораў.** (я)




**Шакаладныя цукеркі**

На 2 сталовыя лыжкі какавы ўзяць 2 шклянкі цукру, 1 шклянку малака, 2 шклянкі рубленых грэцкіх арэхаў, сталовую лыжку таплёнага масла. Малако зварыць разам з цукрам і маслам. Какаву развесці ў невялікай колькасці цёплай вады і паступова ўліць у малако з цукрам і маслам, калі яно кіпіць. Гатаваць, пакуль маса добра не загусцее, увесь час памешваючы, каб не прыгарэла. У канцы варкі дадаць здробленыя арэхі, перамяшаць і выкласці ў адзін прыём на ліст або іншы металічны посуд, добра змазаны маслам. Разраўняць. Калі маса астыне, вострым нажом прарэзаць цукеркі на квадратныя, прамавугольныя або іншай формы.




**ПАЛАТА № 14**

Пазней, у партызанскім атрадзе, пра яго гаварылі з павагай: кадравы камандзір. Толькі ніхто, пэўна, не ведаў, што служба 19-гадовага «кадравага камандзіра» пачалася на граніцы 21 чэрвеня 1941 года. Двух юных лейтэнантаў, выпускнікоў ваеннага вучылішча, прадставілі камандаванню. Потым сказалі:

— Адпачывайце з дарогі. Заўтра — на службу.

«Заўтра» не было. Была ноч на 22 чэрвеня, першая ноч вайны... Колькі дзён, колькі сутак мінула з таго часу? Хто іх можа злічыць...

...Гэта не сон і не думкі. Гэта нешта цьмянае, пераблытанае наплывае і не ў памяці, а проста паўтараецца так, як яно і было. Стары касцёл пры дарозе... За ноч у ім невядома адкуль сабралася чалавек сорак раненых, байцоў і камандзіраў, якія адсталі ад сваіх часцей. Нехта стагнаў, нехта трызніў. А на світанні аднекуль з боку мястэчка Замбрава застрачылі аўтаматы, затрашчалі матацыклы. Вось ён, канец.

— Хлопцы! Хто можа ўстаць, устаньце! Будзем прымаць бой.

Віталь Арэхаў потым на ўсё жыццё запомніць вочы гэтага маёра. Яго голас. Кожны яго рух.

— Лейтэнант, ты будзеш камандзірам. Слухай мяне. Падымай людзей!

Сам маёр падняцца не мог. Прыўзняўся крыху, абапёрся на локаць, хутка і рэзка аддаваў загады. Абарону трымалі некалькі гадзін. Немцы акружалі касцёл зноў і зноў — і кожны раз адступалі... У летапіс вайны яна не ўвойдзе, абарона гэтай маленькай імправізаванай крэпасці, і імя маёра так і не даznаюцца людзі. Толькі і цяпер вось тут, на насілках, у вузкім і доўгім калідоры, у хвіліны прасвятлення, і потым, намнога пазней. Віталь будзе ўспамінаць і ўспамінаць... Не, людзям ніколі не будзе ўсё роўна, як паміраць! І калі б не было таго бою, таго маёра — хто ведае, ці стала б потым у яго сілы паўзці з перабітымі нагамі, паўзці па начах, днём хаваючыся ў лесе, паўзці і паўзці каторыя суткі ў напрамку да Мінска... Там, здавалася яму, свае. Там, здавалася, выратаванне. Але хто, дзе і калі кінуў яго на воз? Куды і па чыім загадзе яго везлі? Дзе ён апынуўся? У сваіх? Ці...

Так, гэта бальніца. Ён разумее, усё разумее... Вось і ўрач у белым халаце і, пэўна, каля яго сястра. І зноў нешта наплыло, замуціла і ўжо сапраўды як у сне пачуў чыесці словы:

— Разрэжце боты!

— Чэрві...

Паміж жыццём і смерцю прайшло яшчэ некалькі сутак. І толькі потым ён даведаўся, што трапіў у заняты фашыстамі Мінск, што нехта яго падабраў у лесе непрытомнага і па загаду немцаў прывёз сюды, у Першую Савецкую бальніцу, і што побач, у палаце № 14, ляжаць такія ж, як ён, раненыя (цяпер ужо лічацца палоннымі) байцы і камандзіры Чырвонай Арміі. Каго прывезлі з іншых бальніц, як і Віталія, падабралі па лясах, пры дарогах і кінулі сюды. Кінулі, каб... ці памерлі яны ад ран і голаду, ці, калі пашанцуе, трапілі ў лагер за калючым дротам. Лагер для ваеннапалонных.

Што будзе з ім? Што будзе з гэтым раненым лётчыкам, які ляжыць на ложку побач? Зойдзе нямецкі афіцэр з блакноцікам, загадае ўстаць, абмацае, як гандляр рабамі, мускулы і павядзе, як бараноў, за калючы дрот?..

Аднойчы праз расчыненыя дзверы Віталь убачыў, а хутчэй за ўсё адчуў, што ў бальніцы трывога. Хутка-хутка бегалі па калідоры туды-сюды сёстры, санітары, маўкліва і насцярожана сталі ля свайго кабінета ўрачы. Так і ёсць, з'явіўся «гандляр рабамі» — той самы афіцэр, які забірае з бальніцы палонных у лагер. Вось і да іх палаты падыходзіць чарга... За сябе Віталь пакуль што не хваляваўся, ён яшчэ не мог устаць з ложка, а вось лётчык, лётчык! Няўжо і ён, гэты горды і дужы ваенны чалавек, пойдзе пакорліва ўслед за гестапаўцам?

У палату хуценька ўвайшла сястра, невысокая, немаладая жанчына. Настасся Мікалаеўна, цётка Насця, як звалі яе тут усе. Сунула ў рукі лётчыку нейкі клуначак ціха сказала:

— Хутчэй на кухню! Пераапраніцеся, вазьміце ў рукі вядро і вось туды, на школьны двор. Хутчэй!

Настаў дзень, калі і яму, Віталю сунулі ў рукі гэтакі ж клуначак і загадалі бегчы цераз бальнічны двор у руіны 33-ай школы... А да таго часу ён ужо зразумеў, якая патаемная, здавалася, нікім не арганізаваная, работа ішла ў бальніцы. Санітаркі, сёстры, урачы — усе былі заняты адной, зусім будзённай і зусім негераічнай, на першы погляд справай: дзе толькі маглі і як маглі збіралі штаны, кашулі, пінжакі і неслі ў бальніцу. Яшчэ адзін камплект цывільнага адзення ў тыя дні раўняўся яшчэ аднаму выратаванаму чалавечаму жыццю. І не проста жыццю... Людзі ішлі ў лясы, наладжвалі сувязь з падпольшчыкамі, бралі ў рукі зброю. Але гэта пазней, пазней... Пакуль што — толькі пераапрануцца і схавацца! Здавалася, уся бальніца была, як ліхаманкай, ахоплена пошукамі адзення. Вось і для яго знайшліся нейкія штаны і кашуля.

Віталь хутка, наколькі дазвалялі не

